© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

У нумары: Як стаць чарадзеем | Слава і ганьба | Без віны вінаваты


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (439) | ГОД IX | 26 ЛІПЕНЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.




Спакойная цяпер старасць у Марыі і Хведара Ізотавых. Яны — пенсіянеры, але застаюцца актыўнымі армоўцамі.

ПРАЦЫ З КОНКУРСУ «ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ»

## ЦЯПЕРАШНЯЕ І КОЛІШНЯЕ

Я люблю марыць, і цяпер, адвярнуўшыся да сонейка тварам, глыбока задумаўся. У лесе гэтак жа пераклікаліся птушкі, і так жа ярка свяціла сонейка. Я доўга глядзеў у неба і нейк не мог уявіць, чаму навокал зяе прыгажосцю. Песні жаўранкаў і аднастайны гул трактара, што працаваў паблізу на спулдзельчым полі, зліваліся ў адну прыгожую песеньку, якой здавалася не будзе канца. Нізкі, чарнявы, загарэлы нечым задаволены трактарыст Грыша дадаў газу — трактар зароў і шпарчэй пайшоў па полі.

Нарадзіўся я ў вёсцы Альхоўка. Перад вайною было тут толькі 16 гаспадароў. Аб гэтым таварыў мне старэнькі дзед Якуб

— Вось якія часы прыйшлі, — гаварыў дзед Якуб — Людзям нават не хочацца нагамі на поле ісці, а што тут гаварыць — у Беласток. А калісьці за нечым патрэбным аж у Беласток пешшу хадзілі. А цяпер зойдзе нейкая дзяўчына пад хлявы свінням даваць есці і гаворыць, што вельмі стамілася, а што было б, каб яна жыла ў тыя часы, калі не было веласіпедаў, матацыклаў, пэкаэсаў, калі ўсюды людзі пешшу хадзілі?

Дзед Якуб часта прыходзіў да нас. Я вельмі цешыўся, калі пачуў дома голас старога. Быў я тады яшчэ маленькім хлопчыкам і мне цікава было паслухаць расказы аб мінулым сваёй роднай вёскі. Мне добра запамяталіся апа-

(Працяг на стар. 5)



Беларускі фарфор упрыгожвае кватэры. (Чытай аб ім на старонцы 3.) Фота Д. Прэса

## Напрамак—жывёлагадоўля

Сур'ёзным рэзервам развіцця Бельскага павета з'яўляецца жывёлагадоўля. Калі свінагадоўля развіваецца добра і сяляне навучыліся гадаваць свіней, дык з буйнай рагатай жывёлай справа дрэнная. У гэтым найважнейшую ролю адыгрываюць тры праблемы: кармы, штучнае апладненне і гаспадарчыя будынкі.

Кармавая праблема ў Бельскім павеце выглядае надрэнна. Ёсць больш дзесяці тысяч гектараў меліяраваных сенажацяў. Аднак адны сенажаці не вырашаць кармавой праблемы. Тут жывёла шмат з'ядае канцэнтраваных кармоў, а мала сакавітых. Усё яшчэ малая колькасць гаспадароў закладае сіласы. Урад ідзе ў гэтым напрамку з вялікай

(Працяг на стар. 4)



Жніво — Фота Цаўлючук

Гісторыю твораць людзі. Але наўрад ці нейкі падручнік гісторыі хаця адным сказам успомніць пра іх, **пра гайнаўскіх армоўцаў.**

На шчасце, гісторыя гэтая не так ужо «гістарычная». Можна яшчэ дакрануцца да яе рукой, паслухаць успамінаў, падглядзець шэрую штодзённасць першых гадоў свабоднага дыхання народнай улады.

Марыя і Хведар Ізотавы дажываюць цяпер восень свайго жыцця. Абое яны размянялі ўжо сёмы дзесятак. Старасць іх спакойная, хаця не безтурботная. Яны — пенсіянеры.

Калі думкамі вяртаюцца да першых гарачых пасляваенных гадоў, словы, вялікія, патэтычныя словы насычаюцца ў іх вуснах новым, жывым зместам.

— Мы, рабочыя, — гаворыць Хведар Ізотаў, — ведалі, што можам спадзявацца толькі на ўласную салідарнасць, на братэрства з сялянамі, якім кожны год голад заглядаў у гаршчкі. Гэты горкі вопыт здабылі мы яшчэ да вайны ў змаганнях з багацеямі. І таму ўзяліся за зброю. Самі ж ведаеце, што Гайнаўка ляжыць на ўскраіне Белавежскай пушчы. Стварала яна выдатныя ўмовы для дзейнасці бандытаў — гэтай узброенай, праклятай рукі чорнай рэакцыі. Але ў Гайнаўцы пасля 1945 года яны не адважыліся нават паказацца. **Тут чакаў іх атрад армоўцаў з трохсот чалавек.**

## БЫЛО НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Хведар Ізотаў быў тады камендантам гайнаўскай армоўскай арганізацыі. Армоўцы ў той час, апрача баявой падрыхтоўкі, шырока разгортвалі грамадска-культурную дзейнасць. А душой гэтага роду мерапрыемстваў была Марыя Ізотава, жонка Хведара — яшчэ цяпер поўная энергіі, бадзёрая жанчына.

— Тады не было ў Гайнаўцы гэтых двух дамоў культуры, — успамінае яна, — а людзям, хаця час быў неспакойны, хацелася недзе разгарнуцца, павесяліцца, патанцаваць. Пры дапамозе мясцовых улад наладзілі мы тады сваю, **армоўскую святліцу**, а пры ёй бібліятэку. Памяшчалася яна ў нашым доме, а я была загадчыцай. Прыходзілі сюды людзі, адстаўлялі ў куток вінтоўкі ці аўтаматы і браліся за кніжкі або газеты. Часам танцавалі нават з вінтоўкай праз плячо. Цяпер, калі падумаць, здаецца гэта смешным. Але тады і юнакі, і старэйшыя ганарыліся тым, што ў іх руках ёсць зброя, хаця добра ведалі, што не для аздобы яе носяць. Неспакойны час у кожную хвіліну патрабаваў поўнай гатоўнасці.

— Недзе восенню 1946 года, — успамінае Ізотаў, — ноччу разбудзіў мяне камендант гайнаўскага пастарунка МО, таварыш Літвінчук.

— Збірай армоўцаў! — загадаў. — Наймениш 50 чалавек. Едзем біць бандытаў.

— Чакаць нас доўга не прыйшлося. Сабраў я 60 узброеных чалавек. Пагрузіліся мы на машыны і разам з міліцыяй і войскам адправіліся ў раён Кляшчэль. Усе яны ведалі, што едуць не на краязнаўчую экскурсію. Там, дзе адзіная музыка — мелодыя кулямётаў, без крыві, без стралянины не бывае. Разам з армоўцамі паехалі самарытанкі.

— Самарытанкі?

— Гэта нашы жаночы санітарны атрад, — паясняе Марыя Ізотава, тадышні камандзір атрада самарытанак. — Арганізавалі мы яго, каб

(Працяг на стар. 5)

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Пад выглядам атамнай раўнавагі

Шматбаковыя нуклеарныя сілы Паўночнаатлантычнага Пакту. Першы раз такая назва прагучэла на міністэрыяльнай канферэнцыі НАТО ў Атаве ў 1961 годзе. Тады гэта было адной з амерыканскіх умоў атамнага ўзбраення еўрапейскіх саюзнікаў ЗША, якія не маюць атамнай зброі. Побач з гэтым праектам разглядаўся на канферэнцыі план стварэння шматнацыянальных нуклеарных сіл, якія засталіся б пад супольным кантролем НАТО, прычым загад, каб прымяніць іх, мелі права даць толькі ЗША.

Паміж двума гэтымі праектамі не было вялікай розніцы. Тое, што ў заходніх нуклеарных планах перамог план стварэння шматбаковых, а не шматнацыянальных нуклеарных сіл, вынікае з шэрагу палітычных пунктаў гледжання, якія павінны аказацца карыснымі для ЗША і Заходняй Германіі. Асноўнае — гэта пазіцыя Францыі, якая, насуперак ЗША, працягвае ствараць сваю ўласную атамную зброю. Другое — адмова Вялікабрытаніі ад стварэння ўласнага атамнага арсеналу (гэтая адмова з'яўляецца вынікам фінансавых цяжкасцей). І, нарэшце, трэцяе — усё больш настойлівае намаганне ФРГ мець уласныя атамныя бомбы.

Чаму іменна шматбаковыя, а не шматнацыянальныя нуклеарныя сілы лепш падыходзяць для ваяўнічых намераў ЗША і ФРГ? Дык вось, у выпадку шматнацыянальных сіл магла б стварыцца магчымасць самаадддзялення аднаго з саюзнікаў НАТО па прыкладу Францыі. А гэтага баяцца ЗША, бо могуць страціць сваю вядучую ролю ў Заходняй Еўропе. І ў той жа час непасрэдная перадача атамнай зброі іншым дзяржавам была б вельмі яўным парушэннем Маскоўскага дагавору.

У выпадку шматбаковых нуклеарных сіл ЗША фармальна не даюць нікому атамных бомб, а пакідаюць іх у рамах НАТО. Фактычна, вядома, у гэтым няма ніякай розніцы.

Для ФРГ шматбаковыя нуклеарныя сілы ствараюць лепшыя перспектывы, чым шматнацыянальныя. Бо Бон спадзяваецца, што толькі цесная сувязь ЗША з Заходняй Еўропай і ўзаемная залежнасць партнёраў НАТО дазволіць немцам здзейсніць свае рэвізіяніцкія ідэалы.

Іншыя члены НАТО не выказваюць асаблівага энтузіязму па прычыне плану шматбаковых сіл нуклеарных, а асабліва коштаў, звязаных з імі, ФРГ згадзілася фінансаваць рэалізацыю гэтых планаў нароўні з ЗША. Абедзве гэтыя дзяржавы ўзялі на сябе абавязак пакрыць 80% (па 40%) выдаткаў. Вялікабрытанія павінна пакрыць 10% коштаў, а Італія, Бенелюкс, Турцыя і Грэцыя — таксама 10%. З гэтых лікаў найлепш відаць розныя ступені зацікаўлення членаў НАТО шматбаковымі нуклеарнымі сіламі, а таксама пад чыім фактычна кантролем знаходзяцца гэтыя сілы. У імперыялістычнай палітыцы — як у гандлі: хто больш плаціць, той выстаўляе большыя патрабаванні. Свет павінен разумець, што ў выпадку шматбаковых нуклеарных сіл найбольшыя патрабаванні будзе выстаўляць заходненямецкі мілітарызм. На гэты факт звяртае сваю ўвагу і нота ўраду СССР, накіраваная да ААН і шэрагу заходніх дзяржаў. Нота перасцерагае ад небяспекі, якую можа пацягнуць за сабой атамнае ўзбраенне Заходняй Германіі. А тым часам ЗША і ФРГ, баючыся абурэння ўсяго свету, спяшаюцца мантаваць свае атамныя ўмацаванні. Ужо ўстаноўлена, што дагавор павінен быць падпісаны яшчэ ў гэтым годзе, і што за год сілы павінны складацца з 25 караблёў, узброеных 200 ракетамі «Палярыс». Няцяжка аблічыць, што 80 з іх будуць уласнасцю ФРГ.

Трэба дадаць, што амерыканцы спяшаюцца і ў сувязі з надыходзячымі выбарамі прэзідэнта. Джонсан хоча гэтым даказаць крайнім рэакцыянерам, якія падтрымліваюць Галдуотэра, што і ў яго асобе знойдуць «саліднага» прыхільніка. Прыкра. Бо цана вельмі высокая, містэр Джонсан.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# СВЯТА МАЛАДОСЦІ



**Сакратар ВК ПАРП тав. В. Мікульскі дзякуе прадстаўніку моладзі Беласточчыны Ю. Мэру за каштоўныя абавязацельствы.**

Нядзеля, 20 ліпеня, была днём, у якім моладзь краіны радасна адзначала сваё свята, «Свята маладосці». Усюды там, дзе моладзь праводзіць час у лагерах адпачынку, і ва ўсіх паветах праходзілі ўрачыстыя мітынгі, зборы і сходы.

Лагеры, дзе адпачывала моладзь Беласточчыны, наведаў у нядзелю 1 сакратар ЦК ССМ, тав. М. Рэнке. Быў ён таксама на ваяводскіх урачыстасцях, якія праходзілі ў горадзе Беластоку. Пачаліся яны дэманстрацыяй умеласці беластоцкіх лётчыкаў. Потым на эстрадзе ў парку давалі канцэрты беластоцкі сімфанічны аркестр і хор з Лап. Галоўным аднак пунктам праграмы «Свята маладосці» ў Беластоку было прывітанне маладзёжных эстафет.



**Яны прывязлі рапарты аб выкананні абавязацельстваў моладзі.**



**Наша «Лявоніха» дае канцэрт у беластоцкім парку з выпадку Свята маладосці.**

Вось спартыўны стадыён у Беластоку. На зялёнай мураве ў доўгай шарэнзе выстраіліся прадстаўнікі маладога пакалення Беласточчыны. Прыбылі яны ў Беласток з усіх паветаў нашага ваяводства. Прывязлі найбольш каштоўныя падарункі сваёй Радзіме — урачыстыя рапарты аб выкананні прынятых на сябе абавязацельстваў у гонар IV З'езда ПАРП і XX-годдзя Народнай Польшчы. Дзякуючы іх добраахвотнай працы вартасць матэрыяльнага багацця Беласточчыны павялічылася на звыш 15 мільёнаў зл. Нават сардэчным пацалункам найлепшае дзіця не можа прынесці больш радасці сваёй маме, чымсьці яны, юнакі, гэтымі каштоўнымі сваімі абавязацельствамі. За іх ахвярнасць, за праяўлены патрыятызм, за любоў да радзімы дзякаваў сакратар Ваяводскага Камітэта ПАРП, тав. Вітальд Мікульскі. Свята маладосці ў Беластоку закончылася канцэртам нашай «Лявоніхі» і танцавальнай забавай.



**Эстафета, якая завязла ў Варшаву рапарт, без сораму перадала цэнтральным уладам, што моладзь Беласточчыны шчыра працавала грамадскім чынам.**

**спорт**

## Спорт праз вялікае „С"

Цяпер найбольш пішацца аб спартакіядзе. Зрэшты, як не пісаць аб найбольшым спартыўным мерапрыемстве XX-годдзя ПНР! Як не пісаць аб тым, што хвалюе ўсю моладзь і хіба палавіну грамадзян, якія нарадзіліся нават далёка перад вайной! Цэнтральная спартакіяда XX-годдзя з'яўляецца найлепшым адказам на ўсялякага роду нараканні. Даказвае, што спорт вялікіх рэкордаў родзіцца з масавага спорту. Цяжка сабе ўявіць, каб з ліку тысячы, стартуючай на стадыёне Легіі ў Варшаве, нельга было выбраць некалькі дзесяткаў таленавітых прадстаўнікоў «каралевы спорту». У гэтым па сутнасці і заключаецца вартасць масавага спорту. Апрача гэтага, заражае прыклад. Апошнія рэкорды Польшчы ў лёгкай атлетыцы выклікалі тое, што на панадворках, сярод дзяцей, дзе раней панаваў футбол, бачым зусім іншую карціну. Трапакі, якія служылі дагэтуль у якасці футбольных варот, перароблены на стаякі для прыжкоў у вышыню. Тратуары, акружаючыя дамы, замяніліся ў бегавыя дарожкі, а пяскоўніцы для малышоў ператварыліся ў месца для скачкоў у даўжыню і, зразумела, для трайных скачкоў. Адным словам, адбылася панадворкавая рэвалюцыя. Дамінуючы гадамі футбол уступае месца «каралеве спорту».

Упартыя скептыкі цвердзяць, праўда, і далей, што гэта аднаразовы парыў. Думаю інакш. Прыпадкова наведаўшы два лагеры ЗМС, са здзіўленнем упершыню я ўбачыў штангі. Маладыя хлопцы ў свабодныя хвіліны з вялікім энтузіязмам падымалі іх уверх. Адкуль раптам гэты энтузіязм? Адказ быў просты: Мы бачылі ў час спартакіяды Башаноўскага, які біў рэкорды свету. Зразумелы тады энтузіязм, які ў будучыні можа даць вялікія плады. Здаецца мне, што спартакіяда не закончыцца 22 ліпеня. Яна застаецца неадлучнай част[кай] фізічнай культуры ў шматлікай моладзі.

**Л. ТАРАСЕВІЧ**

## ДА ГІСТОРЫІ РАЗВІЦЦЯ АСВЕТЫ НА ПАДЛЯШШЫ

# ПАЧАТАК ШКОЛЬНІЦТВА Ў БЕЛЬСКУ

Школьніцтва і асвета на Падляшшы, як паказваюць шматлікія граматы, летапісы і іншыя дакументы, мае багатую гісторыю. Побач са школай заснаванай у 1567 годзе Рыгорам Аляксандравічам Хадкевічам у Заблудаве, а таксама некаторымі праявамі асветніцкай дзейнасці праваслаўнага манастыра ў Супраслі, віднае месца ў справе пашырэння асветы на Падляшшы ў канцы XVI стагоддзя і праз усё XVII стагоддзе займае «брацкая» школа ў Бельску.

Гісторыя ўзнікнення гэтай школы і яе далейшы лёс непасрэдна звязаны з Бельскім праваслаўным богаяўленскім брацтвам. Бельскае брацтва — падобна як і ўсе брацтвы ў беларускіх гарадах — першапачаткова аб'ядноўвала бельскіх мяшчан: купцоў, крамнікаў, рамеснікаў і сялян. Гэтая самадзейная гарадская арганізацыя групавалася вакол праваслаўнай царквы і асноўнай яе мэтай была абарона вытворчых і гандлёвых інтарэсаў яе членаў. Брацтва мела сваю выбарную старшызну, супольную касу, утрымоўвала свой шпіталь, начлежны дом, прытулак для бедных і сірот. Усё гэта было выклікана нарастаючым націскам феадалаў і саноўнікаў каталіцкай царквы на гарадское насельніцтва, якое толькі ў форме брацкай узаемадапамогі магло знайсці дзейсную дапамогу. З бегам часу, асабліва ж пасля Люблінскай уніі 1569 года, калі Бельск разам з усёй Падляшскай зямлёй апынуўся ў складзе Польскага Каралеўства, перад брацтвам устала заданне абароны і культывавання беларускіх народных традыцый, а ў сувязі з гэтым і неабходнасць развіваць асвету на роднай мове. Тым больш, што запатрабаванне на адукаваных людзей як у самым Бельску, так і ў іншых гарадах Падляшша, было значнае — пашыраліся гандлёвыя кантакты, вытворчасць і будаўніцтва ўжо патрабавала адукаваных людзей. Патрабавала іх і гарачая палеміка, што разрасталася паміж каталіцкай і праваслаўнай царквамі ў справах догмаў веры. Усё гэта схіліла бельскіх братоў да думкі арганізаваць школу.

Калі аб часе заснавання бельскага богаяўленскага праваслаўнага брацтва можам гаварыць толькі прыблізна (яно праўдападобна ўзнікла недзе ў палавіне XVI стагоддзя), дык аб даце ўзнікнення пры гэтым брацтве школы маем дакладныя даныя. Знаходзім іх у грамаце брэсцкага епіскапа Іпація Пацея, дадзенай бельскаму брацтву 29 чэрвеня 1594 года. Іменна ў гэтай грамаце дазвалялася Бельскаму брацтву адкрыць сваю школу і ў яе « дидаскалов или учителев школных детем своим и пришелцев убогих по чину школ приймовати».

З гэтага вынікае, што бельская школа была задумана не як звычайная ў тыя часы прыцаркоўная школа з адным настаўнікам і значнай колькасцю навучэнцаў і «пришелцев». Аб яе папулярнасці сярод мясцовага насельніцтва і значэнні сведчыць барацьба, якая разгарэлася ў пачатку XVI стагоддзя паміж праваслаўнымі і уніятамі за тое, каму гэтая навучальная ўстанова павінна належаць. У чыім уладанні была школа — праваслаўных ці уніятаў — той лічыўся пераможцам у тым бескампрамісным жорсткім змаганні, якое затапіла ўсё Падляшша ў першай палавіне XVI стагоддзя.

І так, пасля свайго заснавання Бельская школа каля 10 год знаходзілася пад апекай і кіраўніцтвам Бельскага праваслаўнага брацтва. Потым епіскап Пацей, які быў змагальнікам за унію, перадае школу уніятам. Аднак праваслаўныя браты Бельска, якія бачылі ў існаванні школы адну з самых дзейных зброй барацьбы за захаванне беларускіх народных традыцый, не паддаюцца. Пасля некалькігадовай барацьбы з правінцыянальнымі ўладамі, якія, дарэчы, заўсёды станавіліся на бок уніятаў, дабіваюцца разбору справы самім каралём. У выніку велізарных намаганняў і шматлікіх захадаў бяльшчан кароль Уладзіслаў I у н і в е р с а л а м ад 14 сакавіка 1633 года загадвае вярнуць школу Бельскаму брацтву. З жніўня 1633 года школа перайшла пад загад і апеку праваслаўных. Але зараз жа уніяты сілай і без ніякага дазволу захапілі школу, і цэлы год яна знаходзілася ў іх руках. На гэты раз бельскія браты падаюцца ў далёкі Кіеў і там у маі 1634 года атрымоўваюць ад мітрапаліта Пятра Магілы пацвярджэнне сваіх правоў на школу.

Пасля гэтых 40 год бурлівай і жорсткай барацьбы школа ўжо ўвесь час знаходзілася ва ўладанні Бельскага праваслаўнага брацтва. Праіснавала яна даволі доўга. За час сваёй дзейнасці ў сваіх мурах гасцявала такіх выдатных педагогаў, як Лаўрэнцій Зізанія і іншых. Яна падрыхтавала цэлыя пакаленні актыўных дзеячоў на ніве роднай асветы і культуры.

Аб часе спынення дзейнасці Бельскай брацкай школы няма дакладных звестак. Але трэба меркаваць, што яно наступіла не раней пачатку XVIII стагоддзя, г.зн. у часы асабліва ўзмоцненага націску магнатаў і шляхты на правы гараджан, а таксама жорсткіх ганенняў уніяцкай і каталіцкай царквы, накіраваных супроць праваслаўя.

У 370-тую гадавіну ад часу заснавання Бельскай школы, неабходна адзначыць, што яе дзейнасць з'яўляецца адной з цікавых і прыгожых старонак развіцця асветы на Падляшскай зямлі.

**мгр Мікалай Гайдук**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ВАПНА — ГЭТА ЎРАДЖАЙ

Часта сустракаемся з літарамі Са, якія абазначаюць хімічны элемент — кальцый. Хімікі адразу скажуць, што кальцый — гэта вапна, адзін з найважнейшых элементаў у глебе, неабходны для нармальнага развіцця расліны. Вапна ахоўвае глебу ад надмернага акіслення, што вельмі важна амаль для ўсіх раслін.

На Беласточчыне ёсць каля 70% кіслых глеб, у тым ліку каля 25% глеб моцна кіслых. На гэтых землях не можа быць гаворкі аб добрых ураджаях нават для тых раслін, якія нядрэнна зносяць кіслыя глебы.

У апошні час у нашым ваяводстве праведзены доследы над вапнаваннем глебы пад расліны, якія добра зносяць кіслыя глебы, — жыта і бульбу. Эксперыменты былі праведзены ў Манецкім павеце. Яны паказалі, што гэтыя расліны лепей растуць на слабакіслых глебах. З гэтага робім вывад, што на глебах, дзе знак кіслотнасці pH=5, няма гаворкі аб высокіх ураджаях.

Большая частка нашых глеб патрабуе значна інтэнсіўнейшага вапнавання, чым гэта робіцца цяпер, асабліва ў Бельскім і Сакольскім паветах. Гэта адна з умоў перамогі ў вялікай бітве за павышэнне ўраджаяў. Гэта справа набывае яшчэ большага значэння, калі ўзяць пад увагу факт, што ў будучай пяцігодцы выкарыстанне мінеральных угнаенняў, якое спрыяе акісленню глебы, узрасце на 130—140 кг NPK на гектар.

Трэба вапнаваць. Найлепшы час на вапнаванне, — пасля таго, як збожжа звезена з поля, па іржышчы. Колькасць патрэбнай вапны залежыць ад ступені кіслотнасці глебы і расліны, якая будзе тут сеяцца. Трэба памятаць, што вапеннае ўгнаенне найлепш дзейнічае на другі і трэці год пасля высеву. Такім чынам, вапнаванне павінна праводзіцца ў акрэслены год і ўлічваць севазварот.

Найлепш любяць вапну люцэрна, канюшына, эспарцэта, цукровыя буракі, гарох і віка. Найменш — лён, лубін, бульба, кукуруза, а таксама жыта.

Не варта ўгнойваць адразу вапнай і гноем на даным полі. У такім выпадку атрымліваем значныя страты азоту, найважнейшага рэчыва, якое патрэбна ўсім раслінам.

Калі ўжо існуе неабходнасць прымянення разам вапны і гною, дык раскідаем спачатку вапну, потым гной і адразу заворваем.

На лёгкіх глебах даем менш вапны, а на цяжкіх, гліністых значна больш. Існуюць розныя віды вапеннага ўгнаення, але найчасцей выкарыстоўваецца карбанат вапны ($CaCO_3$) і паленая вапна. Карбанат лягчэй засвойваецца глебай і таму прымяняецца на лёгкіх глебах, а паленая вапна — на цяжкіх.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# СЛАВА І ГАНЬБА

Вёску Дарожкі, што ў Беластоцкім павеце, праславіла спулдзельня прадукцыйная. Сапраўды, дзесяты ўжо год б'е яна ўсялякія магчымыя рэкорды ў сельскай гаспадарцы. Вось вынікі за мінулы няўраджайны, як ведаем год: пшаніцы і жыта сабралі яны па 23 з лішнім цэнтнеры з кожнага гектара сваіх пасеваў, аўса — 20 цэнтнераў, бульбы 223 цэнтнеры і цукровых буракоў — 320 цэнтнераў. Дзе хто бачыў на Беласточчыне такі ўраджай?

Быўшы агранам спулдзельні тав. Вішнеўскі недзе ў 1961 годзе ўрачыста заяўляў на розных нарадах, што за 2—3 гады іх спулдзельня так разгорне жывёлагадоўлю, што атрымае на сто гектараў зямельных угоддзяў па сто кароў. Многія тады, проста, смяяліся.

— Фантазёр, — гаварылі са спачувальнай усмешкай.

А Вішнеўскі праводзіў эканамічны рахунак, з алоўкам даказаў, што гэта вельмі спулдзельні аплаціцца.

Цяпер аграном Вішнеўскага ў спулдзельні ўжо няма, але яго фантазія спрад трох гадоў стала рэчаіснасцю. Спулдзельня Дарожкі дабілася планаваных ім паказальнікаў па жывёлагадоўлі.

Добра, вельмі добра жывуць члены спулдзельні ў Дарожках. Калі б пералічыць на грошы ўсё, што зарабляюць у спулдзельні, выпала б на адну сям'ю ў месяц у сярэднім ад паўтары да чатырох тысяч злотых. Старшыня спулдзельні наракае. Гаворыць, што людзям задобра жывецца і таму яны не хочуць працаваць, а працаваць трэба, бо працы ёсць вельмі многа, хаця ў спулдзельні шырока прымяняецца сельскагаспадарчая тэхніка. Нават ужо кароў дояць электрычнымі даілкамі.

Вось гэта расслаўляе Дарожкі ў нашай краіне.

Пры чым тады тут ганьба? Яна, дарэчы, не датычыць выключна спулдзельні. Але па чарзе.

Год назад на Дзень Адраджэння быў урачыста перадазаны ў карыстанне жыхарам вёскі Дарожкі прыгожы аб'ект культурнага характару — Дом людовы. Яго пабудова каштавала амаль паўмільёна злотых. Спулдзельня пакрыла каля 40% коштаў. У Доме людовым памясціліся: спулдзельчае бюро, багатая бібліятэка з чытальняй і вялікая глядзельная зала, якая дасканала надаецца да клубнай, светліцовай працы. Кіраўніком святліцы стала Аня Семянчук. Адначасова кіруе яна мясцовым гуртком Саюза сялянскай моладзі, які налічвае 13 чалавек.

Ёсць тады выгодны будынак, ёсць штатны кіраўнік і ёсць актыў — літаральна ўсё, што патрэбна для жывой, цікавай дзейнасці. На жаль, гэта толькі так здавалася б.

Дом людовы, усё роўна, калі яго наведаеш, сустракае цябе глыбокай, быццам грабавой цішынёй.

Найперш доўга прышлося шукаць ключоў ад святліцы, а потым аказалася, што даўно, даўно ніхто ўжо не заходзіў у гэтую прыгожую і прасторную залу. На крэслах валяліся горбы газет, сумна глядзеў запыленым сваім вокам тэлевізар, вада ў вядры пакрылася жоўта - сінім слоем нейкага тлушчу, а духата стаяла тут такая, што ў галаве кружылася.

Глядзеў на гэта ўсё чалавек, цяжка ўздыхнуў і думаў: вось дзе лёгкадумна нішчэюць тысячы злотых нашых супольных грошай.

Паважаныя сябры з аддзела асветы і культуры прэзідыума ПРН у Беластоку, прабудзіцеся, на літасць! Пастарайцеся, калі ласка, змыць гэтае пятно ганьбы на праслаўленым імені дарожкаўцаў. А найперш неабходна змяніць кіраўніка святліцы. Аня Семянчук выйшла замуж і свае зацікаўленне з клубнай працы перанесла на маладога мужа. Дык навошта ёй у тым перашкаджаць?

**В. Рудчык**
фота аўтара



**Велізарны кароўнік мае спулдзельня прадукцыйная ў Дарожках, але і кароў у ім поўна.**

# У летнюю спякоту

**У летнюю спякоту ў хаце Апанаса Курыла з Вулькі - Нурэцкай заўсёды прыемны халадок. Хочацца ведаць чаму. Паглядзіце на гэты здымак. Хата яго са ўсіх бакоў шчыльна ахутана дзікім вінаградам, які дасканала ахоўвае яе ад гарачых праменняў сонца.**

**Фота Ул. Паўлючука**



# НАПРАМАК — ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

**(Працяг са стар. 1)**

дапамогай, прызнаючы цэмент і ў пэўнай ступені пакрываючы грашовыя расходы. ПЗУ у Бельску прызначыў грошы на 622 сіласныя ямы. Сцвярджаецца, што ў гэтым напрамку не многа яшчэ робіць агранамічная служба. Калі грамадскія аграномы ў большасці і цэлая сельскагаспадарчая служба сталі цікавіцца раслінаводствам, дык жывёлагадоўляй няма каму заняцца.

Штучнае апладненне павінна прынесці вялікую эканамічную карысць. Пры гэтым атрымліваем пароду найлепшай якасці. Пакуль што сярэдні надой ад каровы ў Бельскім павеце дасягае 1,5 тысячы літраў малака. А вядома, што эканамічна і практычна аплачваецца гадаваць карову, якая дае больш 2 тысяч літраў малака. Сёння мы не можам пазволіць сабе гадаваць высакаякасных бугаёў. Зрэшты, краіны з большымі дасягненнямі ў жывёлагадоўлі прымяняюць толькі штучнае апладненне. Развіццё жывёлагадоўлі ў многім залежыць ад штучнага апладнення.

Несумненна, вышэй сказанае поўнасцю не гарантуе павышэння ўзроўню жывёлагадоўлі на Бельшчыне. Справай, аб якой не можна забыць, з'яўляецца праблема гаспадарчых будынкаў. Назіраецца факт, што некаторыя сяляне маюць лішкі сена і яго прадаюць. Аднак гэта зусім не лішкі сена, а недахоп кароў, які вынікае не з кармавой праблемы, а з малых гаспадарчых будынкаў. У гэтым напрамку шмат зроблена. Напрыклад, кароўнікі з панелі (зборных канструкцый). Дзяржава штогод павышае прыдзелы матэрыялаў на вясковае будаўніцтва. Справа ў тым, каб ГРН-ы і іншыя вясковыя арганізацыі на чале з ПОП дапільнавалі, каб прыдзелы гэтыя былі адпаведна выкарыстаны.

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**

## ТАЯМНІЦЫ ЧОРНАЙ МАГІІ

# ЯК СТАЦЬ

Трэба аднак сказаць праўду, што няма цяпер у нас тых магутных чараўнікоў і чарадзеяў, аб якіх расказваюць казкі. Нешматлікія варажбіты і знахары, якія жывуць яшчэ дзе-недзе ў нашых вёсках, — гэта толькі слабое рэха тых чараўнікоў, якія жылі на нашай зямлі тысячы год таму назад.

Дзейнасць чарадзеяў, чараўнікоў і іншых «цудатворцаў» можам назіраць і зараз сярод прымітыўных плямён Азіі, Афрыкі і Аўстраліі. Там па-даўнейшаму выконваюць яны свае таямнічыя практыкі.

Пачнем аднак ад пачатку: як стаць чарадзеем? Каб не было сумненняў: выясняю, што ніжэй пададзеныя «мудрасці» чэрпаю перад усім з велізарнай кнігі (850 старонак вялікага фармату) Казіміра Машынскага пад загалоўкам «Чалавек. Уступ да сусветнай этнаграфіі і этналогіі», выдадзенай у Варшаве ў 1958 годзе. Асабліва цікавы працэс «пераўтварэння» ў чараўнікі ў народаў гарачай і ўмеранай кліматычнай зоны. Бо тут, каб стаць чарадзеем, трэба прайсці адпаведную «школу» пад кіраўніцтвам старога чараўніка. «Школа» гэтая ў розных плямён вельмі падобная: кандыдат на чарадзея мусіць пабываць адзін нейкі час у пустыні, мець доўгія пасты, спажываць напотныя сродкі і адурманьваючыя напіткі, стрымлівацца ад сну, а неаднойчы і розныя формы знуткаў над сабою, як раздзіранне грудзей, біццё сябе кулакамі па галаве і г.д.

Асабліва складаны працэс выхоўвання чараўнікоў у аўстралійскіх плямён. Чараўнік - настаўнік раніць тупымі прыборамі цела маладога вучня чараўніка да крыві (каб лягчэй магла ўвайсці ў яго магічная сіла!), кандыдат на чараўніка мусіць выграбсці з зямлі труп і жаваць яго паўзгнілыя рэшткі, грызці вялікую косць чалавечай рукі, якую носіць ён пастаянна з сабою і г.д. Пад канец навукі кандыдат на чараўніка абкладаецца гноем і ў такім стане прабывае нейкі час.

Калі кандыдат да чарадзейскага стану пяройдзе ўсе гэтыя выпрабаванні, наступае ініцыяцыя, прыняццё маладога «вучня» ў лік чараўнікоў. Ад гэтага часу можа ён выконваць розныя цуды, між іншым можа зачараваць чалавека ў жывёлу.

### ЯК ПРЫГОЖУЮ КАРАЛЕЎНУ Ў ЖАБУ ЗАЧАРАВАЦЬ?

Вы, мабыць, памятаеце розныя страшэнныя казкі аб чарадзеях і чарадзействе. Хаця б нешта ў гэтым сэнсе.

Дрэнны чараўнік зачараваў прыгожую каралеўну ў жабу. Каралеўна жыве на балоце, харчуецца балотнымі раслінамі і гэтак далей. Добры пастух Іван адазваўся да жабы добрым словам і жаба стала каралевай, а балота цудоўным цёрамам.

Гэтак бывае ў казках, а як у сапраўднасці? Першабытныя плямёны амаль паўсюдна вераць у



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ЦЯПЕРАШНЯЕ І КОЛІШНЯЕ

(Працяг са стар. 1)

вяданні дзеда аб жыцці моладзі і падзеях у даваенныя часы.

— Бывала, — казаў дзед, — выйдзеш на вуліцу — ціха, нічога сабе. Ды тут раптам у другім канцы вёскі дзяўчаты і хлопцы як заспяваюць, ажно мурашкі па целе прабягуць, а сяляне навакольных вёсак гавораць: «Ну, ужо зноў Альхоўка спявае. Ідзіце, кума, паслухайце, што гэта за песня льецца». Эгэ, — казаў далей дзед, — цяпер то і спяваць перасталі, толькі матацыклы гудуць беспярапынку. Бывала бярэ дзяўчына ў рукі туфлі і басанож ідзе на забаву. Там толькі абувае і тады танцуе — шкадавалі дзяўчаты сваіх туфляў, бо не заўсёды іх маглі атрымаць ад бацькоў. Гэта не тое, што цяпер. А бывала і так, што дзяўчаты босыя танцавалі. Колькі смеху было пры гэтым: вядома, хлопцы праз неасцярожнасць наступалі ім на пальцы і тады дзяўчаты войкалі з болю. Гэта не тое, што цяпер: абуе туфлі на шпільках тоненькіх і танцуе, выкручваецца. Ліха яе ведае, як яна ног не паломіць. Ого-го, — працягвае дзед, — што гэта за часы былі, не тое што цяпер! Бач ты, колькі цяпер матацыклаў і самаходаў выдумалі. Гудуць цэлую нядзельку і спакойна адпачыць не даюць на сонейку нам, старым.

Дзед Якуб любіў пагаварыць, паталкаваць — словам, гаворкі быў чалавек. Дзед многа мне расказваў аб даўнейшых падзеях, аб працы ў лесе.

— Бывала, — кажа дзед, — устаеш уначы а 12-ай гадзіне і едзеш у лес. Снег, завіруха, а ты кладзеш бэлькі, вязеш да рэчкі на сплаў. За адзін дзень толькі развязеш, а ўвечары змучаны і мокры вяртаешся дамоў. Эгэ, змянілася жыццё нашых хлопцаў, спяць сабе спакойна колькі хочуць, пераварочваюцца на другі бок.

— І праўда ж гэта, — спрабаваў я падтакваць дзеду. — Падумаць толькі, як многа перамянілася ў нашым жыцці за гады народнай улады. Паглядзець толькі, як далёка зайшлі мы наперад. Тысячы школ, клубаў, сотні бальніц, кінатэатраў, радзільных дамоў, ды не з адным або двума лекарамі, а з цэлай арміяй адукаваных спецыялістаў. Альхоўка перад вайной была малой, забітай вёскай, а цяпер глянуць і любавацца, што мая родная вёска знайшла сабе дарогу да новага жыцця, працерла шлях у новае, светлае, радаснае жыццё і цяпер ідзе наперад, працірае далейшы шлях у сацыялізм. Даўно ўжо зніклі саламяныя стрэхі, а іх месца заняла чарапіца. Некалі паблісквалі там бледныя агеньчыкі газовак, а цяпер у вокнах ярка свецяцца, проста ззяюць электрычныя лямпачкі. Падумаць толькі, колькі вёсак і гарадоў, дзе людзі жывуць светлым, заможным і культурным жыццём. Даўно ўжо ў нябыт уцяклі галеча і беднасць, хаця і вайна нанесла велізарныя страты нашым вёскам. У тыя грозныя гады, спалена і разбурана тысячы вёсак, мястэчак, гарадоў і фабрык. Загінула дзесяткі тысяч людзей з рук гітлераўскіх акупантаў.

Дваццаць год мінае з таго часу, як Народная Польшча пачала адбудоўваць сваю знішчаную гаспадарку. Дваццаць год цешымся жыццём. У гарадах і на вёсках бачым людзей з вясёлымі тварамі, з нейкай радасцю ў вачах. Па ўсім відаць, што гэтыя людзі знайшлі сабе дарогу, знайшлі сабе сапраўднае шчасце.

**Янка Бароўскі**
вёска Ваські

# БЫЛО НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

(Працяг са стар. 1)

аказваць раненым армоўцам першую дапамогу пры сутычках з бандамі. Самарытанкі — гэта пераважна жонкі армоўцаў, работніцы гайнаўскіх заводаў і ўстаноў грамадзянскай бяспекі.

— Пад Кляшчэлямі, — апавядае Хведар Ізотаў, — спадзяваліся мы сустрэць банду «Млота». Пасля двухдзённага прачэсвання кляшчэляўскіх лясоў, вярнуліся мы назад у Гайнаўку. Гэта, зрэшты, была наша не першая і не апошняя баявая паездка. Білі мы бандытаў і пад Нараўкай і ў Арэшкаве, і ў другіх мясцовасцях Беласточчыны.

«Білі мы бандытаў...» масферу напружанасці і трывогі? Ці ў тым сказе можа змясціцца неспа-




Армоўцы з Гайнаўкі і наваколля святкуюць чацвёртую гадавіну існавання сваёй арганізацыі. Невядомы фатограф зрабіў гэты здымак у час дэманстрацыі па вуліцах Гайнаўкі ў 1949 годзе. Не хочацца верыць, што ад гэтага часу прайшло ўжо 15 год.

Просты, сухі сказ. Ці ж можа ён пераказаць змест тых дзён? Ці ж можа ён адлюстраваць ат-



Вось яны, зразумела, не ўсе, гайнаўскія армоўцы, невядомыя героі. Здымак зроблены летам 1948 года ў час агляду атрада галоўным інспектарам па справах ОРМО Галоўнай Камендатуры МО.

койнае біццё сэрца маці, жонкі, дзяцей, чакаючых на зварот бацькі, сына, брата, сястры? Ці можа ён перадаць усю гэтую горыч перажыванняў, калі нехта блізкі вяртаўся з баявой паездкі ўжо ў... труне?

Час няўмольна аддаляе нас ад тых дзён. Гэта добра, вельмі добра. Але людская памяць — не магнітафонная плёнка, на якой назаўсёды застаецца тое, што раз было запісана. Нават у памяці тых, хто за спакой і парадак, за дэмакратыю рызыкаваў жыццём, застаюцца сухія, нібы статыстычныя сцвярджэнні: білі мы бандытаў, прачэсвалі лясы, лавілі спекулянтаў, абаранялі выбарчыя пункты ў час рэферэндума і тады, калі выбіралі першы Сейм, сачылі за злачынцамі.

Дзе ж у гэтых сцвярджэннях месца на самаадданасць, адвагу і ахвярнасць тых людзей, якія па ўласнай волі залажылі на свае рукавы бела-чырвоныя павязкі з літарамі «ОРМО», якія ўзялі ў руку зброю, каб абараняць не толькі сябе. — Дзе ж месца на гэтыя высакародныя пачуцці?

Гісторыя, на жаль, абмінае гэта моўчкі. Аднак важна тое, што пачаўшы ад 1945 года бандзёры не асмеліліся заглянуць у Гайнаўку. Шчырае дзякуй гайнаўскім і не толькі гайнаўскім армоўцам.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

# ЧАРАДЗЕЕМ

магчымасць замены чалавека ў жывёлу. А ў апісаннях жыцця гэтых плямён неаднойчы знаходзім прыклады такіх перамен. Вось як Л. Сэленка апісвае такое здарэнне, якога была сведкам у час сваіх падарожжаў на Яве. Калі Л. Сэленка наведала адну з вёсак Явы, да гаспадара, дзе яна затрымалася, сышліся мужчыны з усяе вёскі, каб паказаць свае штучкі. «Сярод розных глупстваў, — расказвае Л. Сэленка, — якія паказвалі явайцы, зацікавіла мяне адна рэч». А было гэта так.

У пэўны момант з натоўпу выступіў мужчына і скінуў з сябе частку вопраткі. Да яго падыйшоў іншы мужчына (быў гэта чараўнік), пагладзіў яго далонню па твары і прашаптаў нейкія словы. Раптам першы з гэтых людзей сарваўся з месца і шпарка, галопам паімчаўся наўкола.

«Цяпер ён стаў канём», — сказаў Л. Сэленка гаспадар. «Хочаце сказаць, што іграе ролю каня», — адказала тая. «Не, ён сапраўды цяпер конь, зараз гэта ўбачыце», — заявіў гаспадар.

Неўзабаве некалькі маладых хлапцоў паімчалася за ашалелым чалавекам, кідаючы за ім шнуры з петлямі на канцы, такія, якія кідаюцца на жывёлу, але злавіць чалавека не ўдалося.

У пэўны момант перасупіў яму дарогу адзін з мужчын з вязкаю рысу ў руках. «І я з жахам убачыла, — расказвае Л. Сэленка, што чалавек пачаў прагна хапаць доўгія сцяблін і жаваць гэтую цвёрдую і вострую спажыву. Потым ізноў пачаў шалець. Вочы яго выйшлі на верх, пырхаў пры тым надзвычай натуральна, як сапраўдны конь». Сеанс закончыўся паўторнай інтэрвенцыяй чараўніка, які расчараваў няшчаснага і вярнуў яму чалавечую натуру.

У прыведзеным прыкладзе маем праўдападобна дачыненне з гіпнатычным уздзеяннем чараўніка. Гіпноз вядомы ўсяму свету, але асабліва распаўсюджаны сярод першабытных плямён. Прычына гэтага, праўдападобна, у спецыфіцы іх псіхічнага складу, які характарызуецца вялікай эмацыянальнасцю, схільнасцю да фантазіравання і наіўнай верай у розныя аўтарытэты.

Гіпнозам у Еўропе паслугоўваюцца амаль выключна лекары, якія пры яго дапамозе лечаць розныя нервовыя і псіхічныя хваробы. Сумнасць гіпноза ў тым, што загіпнатызаваны чалавек верыць і адчувае ўсё так, як яму гаворыць гіпнатызуючы. Можна, напрыклад, загіпнатызаванаму падаць бульбу і сказаць, што гэта смачнае яблыка, і ён са смакам з'есць яго. Можна даць нават дошкі і сказаць, што гэта востры нож, і загіпнатызаваны будзе паслугоўвацца дошкай, як нажом. Можна сказаць яму, што лякарства, якое ён зараз прыме, вылечыць яго з цяжкай хваробы, і загіпнатызаваны можа сапраўды аздаравець, хаця лякарствам гэтым можа быць чыстая вада.

Рознымі формамі гіпноза карыстаюцца асабліва індыйскія «цудатворцы». Прычым, неаднойчы маем тут дачыненне са зборным гіпнозам, калі гіпнатызёр гіпнатызуе цэлую групу людзей. Для прыкладу такая вось сцэнка, зачэрпнутая з кнігі К. Машынскага.

**Факір** (індыйскі чарадзей) кідае ўверх канец доўгага шнурка. Шнурок ляціць у хмары і там застаецца вісець ад неба і да зямлі. На шнурок улазіць памочнік факіра. Лезе ўверх так доўга, аж у канцы гіне з вачэй натоўпа. Тады факір кідае ўверх востры нож. Зверху падаюць кавалкі факіравага памочніка: ногі, галава, тулава з убітым у плечы нажом. Факір складае кавалкі свайго памочніка ў мяшок, вымаўляе нейкія словы і развязвае мяшок, з якога выходзіць узрадаваны здаравюсенькі памочнік факіра.

Дзейнасць гіпнатызёраў нельга блытаць з дзейнасцю розных фокуснікаў і штукароў, якія калісьці хадзілі па вёсках і паказвалі свае «штучкі», а цяпер выступаюць у цырках і на эстрадах. Іх штукі — гэта найчасцей простыя аптычныя (зраковыя) абман і навучыцца іх можа кожны чалавек. Патрэбна да гэтага толькі доўгая трэніроўка. (а-п)

# ДЗІЎНЫ ЎЛЬТЫМАТУМ

Настаўнікі ў Кнышэвічах прабавалі паразумецца з вясковай моладдзю ў справе арганізацыі аматарскага гуртка. Але маладзікі не ўступілі — узамен за дзейнасць у гуртку давай ім школу на забаву! Школьнае кіраўніцтва, напалоханае фактамі частых боек, не згадзілася на гэтакі дзіўны ўльтыматум (з Кнышэвіч заўсёды кагосьці саджаюць у турму за хуліганства).

Затое кнышэвіцкія вучні далі некалькі цікавых пастановак п'ес «Суседка» і «Суд».

У школьнай бібліятэцы знаходзіцца каля 400 тамоў беларускай літаратуры, якую чытаюць не толькі школьнікі, але і дарослыя пазычаюць за пасрэдніцтвам сваіх дзяцей. Напрыклад, часта пазычае такім чынам беларускія кніжкі Іван Макарэвіч і Ніна Прымака. Многа чытаюць малышы — Коля Мажэйка і Жэня Малішэўская.

Словам, школа адыгрывае ролю культурнага цэнтра ў вёсцы — так, як павінна быць. (ся)

# Зубр шпацыруе вуліцамі Белавежы

Не малая сенсацыя абляцела нядаўна Белавежу. У цэнтры мястэчка апынуўся сам валадар пушчы — зубр, наводзячы жах на праходзячых турыстаў. Карэнныя белавежане таксама чмыхалі з вуліцы на panадворкі, бо хоць тутэйшым людзям зубр не навіна, аднак на вуліцы ён наогул не сустракаецца. Аказалася, што зубр трапіў у цэнтр Белавежы (нікім не прыкмечаны) са стадам кароў, якія пасвіліся ў лесе. Прывабіла яго прыбіўшаяся да стада пародзістая галандка — адна з кароў, прывезеная ў пушчу з мэтай эксперыментальнага крыжавання з зубрамі. Кавалер аказаўся надта раўнівым. На намаганні лясной службы выдварыць яго з мястэчка, адказаў упартасцю і датуль акупаваў цэнтр Белавежы, пакуль не знайшлася няўдачлівая красуля. Убачыўшы даму сэрца, грозны барадач зрабіўся падатлівым і цяпер леснікі з дзіцячай лёгкасцю адвялі ўцекачоў у пушчу. (рл)



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

